# ВЕЧА-VIEČA




Вільня — сталіца Вялікага Княжаства Літоўскага (Вялітва) і Беларускія этнаграфічныя межы. Выхад да Балтыцкага мора, пасьле Другой сьветавой вайны ў большасьці ёсьць засэлены Беларусамі.

Byelorussian (Greatlitva) etnographical boundaries. Those boundaries were stable till the 18th century. The outlet to the Baltic Sea is inhibited mostly by Byelorussians, a result of World War II politics.

Менск — сталіца Беларускай Народнай Рэспублікі і межы згодна дэклярацыі ўрадом БНР ад 1918 года.

The capitol Miensk and the borders of the Byelorussian People's Republic were declared on March 25, 1918 in Miensk.

Сталіца Смаленск Беларускай Савецкай Рэспублікі і яе межы, якая была абвешчана 1 студзеня 1919 г. у г. Смаленску.
Capitol Smolensk and the boundries of the Byelorussian Socialist Republic. January 1, 1919.

г. Менск і астатак Літбела із шасьцю паветамі пераймяноўваюцца ў БССР — трэцьцяя тэрытарыяльная маніпуляцыя чырвонай Масквы.
Miensk with six counties left from Litbel (abbr. Lithuanian Byelorussian Republic) was organized to the BSSR.

Сталіца Менск і межы БССР на сёньня.

The Byelorussian Soviet Socialist Republic — BSSR today.

Гэнэральны Абшар Беларусі 1941-1944 год. із сталіцай у Менску быў арганізаваны немцамі.
The General Territory of Byelorussia with the capitol Miensk from 1941-1944 was organized by German ocupying forces.


Радактар: Dr. P. Markouski Editor
Адрыс: 204 State Highway, 18
East Brunswick, N. J. 08816 USA
Цана 50 ц. Price 50 ¢

№ 2 (12)
Год II, 1971 Сакавік March Year II, 1971
Беларускі квартальны часапіс Beylorussian Quarterly Magazine

# 25 САКАВІКА 1918 Г. — ДЗЕНЬ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

## Беларусь і незалежнасьць

Гэты артыкул прысьвячаецца да 53 угодкаў БНР.

Пачынаючы ад 1905 г. Нашаніўцы і Беларуская Сацыялістычная Грамада, асабліва падчас рэвалюцыі ў самой Расеі, спрычыніліся ажыцяўленьню ў практыцы Незалежнасьць Беларускаму Народу. Нашыя суседзі, „прыяцелі" на працягу апошніх 50 год робяць усякія маніпуляцыі каб выкарыстаць, зрабіць эрзаць, скампраматаваць, паралізаваць аснову-фундамэнт нацыі гэта незалежнасьць. Ніжэй падаем факты, аналізы за апошнія больш, як 50 год, калі Беларускі народ ішоў дый ідзець па розных дарогах да незалежнасьці.

1915 г. нямецкая акупацыя Заходняй Беларусі, арганізаваўся Беларускі Камітэт у Вільні, немцамі была прызнана Беларуская мова і дазволены школы, выйшла газэта „Гоман", якую немцы цэнзуравалі.

Менск і большая частка Беларусі былі ў расейскіх руках. Расейская рэвалюцыя ў 1917 г. (Керанскі).

Аднавіла сваю дзейнасьць Беларуская Сацыялістычная Грамада, паўстаець многа іншых арганізацый на тэрыторыі Беларусі, ствараецца Агульнабеларускае прадстаўніцтва із Найвышэйшай Рады і Вышэйшай

## Byelorussia - Greatlitva and independence

The revolution in Russia in 1917, for the first time, gave the nations of the empire a chance to speak out for themselves. The struggle between the forces of Keranski and Lenin weakened Russia's control over the enslaved nations which she used as building blocks for the empire.

In 1905, the newspaper, "Nasha Niva", and the Byelorussian Socialist Hramada were responsible for waking up Byelorussian people to their independence. Gathered in Miensk from December 18 through 31, 1917 was the First Byelorussian Congress, which elected an executive body — Narodny Secretariat and at the same time, gave its government unrestricted powers to do whatever was good and necessary in the way of achieving independence for the Byelorussian people.

The Byelorussian people had big desires and at the same time were weak. To understand the weakness, the situation at that time in Byelorussia must be understood. The "Nasha Niva" could not reach the people because of the very high illiteracy rate among them. The Byelorussian Socialist Hramada was an underground organization. Many prominent leaders were exiled to Siberia and many were called to military zarist duty, because of the war. 20 million Byelorussian peo-

Вайсковай Рады.

Бальшавікі робяць большыя абяцанкі-абманкі насельніцтву Расейскай імпэрыі дый у кастрычніку 1917 г. робяць сваю рэвалюцыю. Найбольшая частка тэрыторыі Беларусі была акупавана бальшавікамі. У Менску арганізоўваецца „Савет Народных Камісараў Заходняга Фронта на чале із латышом Ландером. Як бачым бальшавікі і ня думалі аб ніякай БССР.

На дамаганьне Беларускага Прадстаўніцтва бальшавікі дазволілі склікаць Усебеларускі Кангрэс.

5 сьнежня 1917 г. Беларуская Навышэйшая Рада робіць заклік і склікаіць Першы Ўсебеларускі Кангрэс, які адбыўся 18-31 сьнежня 1917 г., у Менску.

30 сьнежня бальшавікі разганяюць Кангрэс.

31 сьнежня у Менскім чыгуначным дэпо дэлегаты выбіраюць Выканаўчы Камітэт, які дзейнічыў у канспірацыі.

Люты 1918 г. ваенныя зрухі на заходнім фронце. 19-20 лютага БНРаўцы збройна перанялі ўладу ў Менску. Выканаўчы камітэт выдаець Першую Ўстаноўчую **Грамату**, быў пакліканы Першы Народны Сакратарыят Беларусі (Урад).

25 лютага 1918 г. Менск акупавалі немцы, яны не дазваляюць дзейнічыць выканаўчым ворганам БНР.

9 сакавіка 1918 г. Народны

ple, over the 400,000 square kilometers of territory, did not even have one university; elementary education was in the Russian language. There was no industry, which was especially needed for military supplies. The Orthodox Church was prorussian; the Catholic Church was in Polish hands. It was Russian politics that distinguished nationality according to faith instead of according to culture and language. Because of the greediness of our neighbors, Poland and Russia, in the last two centuries they oppressed our culture, identity and economics. Only because of the big size of our people was it impossible for small Poland to chew us up. Already paralized spiritually, by the Poles, Byelorussia was taken over by Russian Czars from Poland thru wars. The Byelorussian people already doomed thru their union with Poland, now were in the hands of the crazy Russian Czars, who always wanted to be on top of the world.. The next difficulty was the war itself between the Russians and Germans on our territory. In spite of all difficulties, there was enough courage to do whatever possible to return the independence that was lost more than hundreds years ago.

The government of the BNR declared Byelorussia's independence on March 25th, 1918.

On January 1st, 1919, in Smolensk, as opposition to the BNR, Moskow declared the Byelorussian

Сакратарыят Беларусі выдаець Другую Ўстаноўчую Грамату, восем пунктуў; по якой лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца собскасьцю дзяржавы. У гэты час у Брэст-Літоўску дзялілі Беларусь паміж нашымі суседзямі.

25 сакавіка 1918 г. Народны Сакратарыят Беларусі і дэлегацыя ад Віленскай Беларускай Рады абвесьцілі Беларусь Незалежнай Дзяржавай — Трэцьцяя Устаноўчая Рада. Аднačасна была паслана тэлеграма Вільгельму II аб просьбе вуніі із Нямеччынай, у Радзе паўстаў раскол. Трэба памятаць, што ўсё гэта дзеілась пад нямецкай акупацыяй.

Восень 1918 г., беспарадкі ў самой Нямеччыне заставілі немцаў пакінуць Менск. Недастаткова падрыхтаваная Беларуская Народная Рэспубліка ня была здольнай завалодаць сытуацыяй.

1 студзеня 1919 г. у горадзе Смаленску была абвешчана БССР із выхадам да Фінскага заліва, Арлоўшчына была смай усходняй тэрыторыяй у складзе БССР. Наагул межы БССР былі далей на ўсход і поўнач (глядзі мапу на вокладцы) чым межы БНР.

1919 г. расейскія імпэрыялістычныя нацыянал-марксысты (бальшавікі) арганізоўваюць Літбел (Літоўскабеларускі). Вайна Масквы із Польшчай.

Soviet Republic with borders from the Gulf of Finland to the upper Volga river. The most eastern border included the Orol region. When the Germans ran into difficulties at home, the Russian Bolsheviks started to move their forces westward, abandoning the idea of the Byelorussian Soviet Republic on January 1, 1919 and establishing their new puppet, Litbel (the abbreviation for Litvanian-Byelorussian Republic) with its capital at Vilno. The unsuccessful war between the Russian Bolsheviks and the Poles was brought to a peace conference at Riga, Miensk and 6 counties which were left of Litbel, were organized in 1921 to form the BSSR, approximately one-tenth of the real Byelorussian territory. By 1933, the territory was moved eastward twice, and a last effort of the Communists of the BSSR to annex Smolensk into the BSSR suffered a setback because of the "famous" purges Stalin began in 1930. The two weeks war between the Germans and Poland in 1939, gave the Kremlin an excuse to reoccupy and make the territory of Western Byelorussia, which was bargained for at the Riga Conference in 1920, a part of the BSSR.

In one decade of the existance of the BSSR, great cultural achievements were made. Between 1933 and 1941, Stalin's terror era devastated the economy of the farmers and the culture of our country. Spirit and stomach suffered most. Red

Урад БНР супрацоўнічае із палякамі. Пад Варшавай бальшавікі церпяць паражэньне.

Рыжскія перамовы. Урад БНР выехаў на эміграцыю. Заходняя Беларусь аддаецца палякам, із астаўшыхся ножак і рожак Літбела (Менск і шэсьць паветаў) арганізоўваецца трэйці раз БССР альбо лепш назваць кукіш беларускім камуністам ад „старэйшага брата дый зьневага Беларускаму Народу ў цэласьці.

1939 г., бальшавікі акупіруюць Заходнюю Беларусь, якая далучаецца да двох раз пасунуўшай свае межы на ўсход-БССР. Посьле Другой Сьветавой Вайны Масква йшчэ раз прагандлявала вялікую частку тэрыторыі Беларусі на карысьць нашых суседзяў.

1941 г. бальшавіцка-нямецкая вайна, немцы акупіруюць усю Беларусь. Акупанты із 10% беларускай тэрыторыі стварылі Вайсрутэнішэ камісар'ят — брат БССР 1921 года, каля таго самага г. Менска із тэрыторыяй на захад.

1943 г. немцы адступаюць на захад дый пачынаюць больш выкарыстоўваць Беларусаў для сваей палітыкі. Ніжэй падаем дакумэнты.

**Вызваньне**
**Беларускае Рады Давера**

**Генеральны камісар Менску 27 чэрвеня 1943 г. паклікаў 16**

crows, NKVD, were appearing at midnight everywhere arresting hundreds and hundreds of people. The hungry and terrorized Byelorussian nation still had one hope — its help from the Western World. In 1941, instead of the Red crows, came the Black Hawks with the Swastica on their claws and "God mit uns" on their belts. It was hard to understand that the only difference between the occupiers was color, their idea was the same: destroy our country and make room for themselves. The imperialistic national-communism (Bolshevism) of Russia and Hitler's National Socialism are 98% the same in all respects.

In 1941-42, Byelorussia was occupied by Germans who treated us as "lebensroum" packed with "untermenschen". Of the one-tenth territory of the real Byelorussia, the Germans established „Weisrutenische general commissariat" west of Miensk, the rest of the country was subdivided between our neighbors. Only in this comissariat some elementary education in Byelorussian was allowed. Here were the only newspapers in the Byelorussian language, 50 miles east of the capitol, Miensk, where everything in the Russian language. The Russian NKVD was replaced by German Gendarms and Gestapo. Gendarms recruited local people and deserters of the Red Army far away from their homes to become a part of a police force

**асобаў зь беларускага асяродзьдзя ў Беларускую Раду Даверу.**

**Сябры Беларускае Рады Даверу, адзначаныя даверам усяго беларускага народа й сваім выдатным адміністрацыйным дасьведчаньнем што да народу й краю Беларусі, у спакойнай працы здабылі сабе прызнаньне нямецкіх уладаў цывільнага кіраўніцтва.**

**Гэнэральны Камісар Гаўляйтар Вільгельм Кубэ на сходзе 27. 6. 1943 г. у залі Менскага Гэбітскамісарыяту правядзе пакліканьне ў Беларускую Раду Даверу сяброў з асобаў, сабраных з усяе Беларусі. На гэтым сходзе, які будзе перадавацца па радыё Менскай Краёвай Радыёстанцыяй, будуць перададзены першыя адзнакі заслугі для ўсходніх народаў асобам, асабліва заслужаным ў адбудове Беларусі. Вышэйшы кіраўнік СС паліцыі на Беларусі, групэнфюрэр Корэзман перадасьць адзнакі за адвагу сябром нашых паліцыйных фармаваньняў, якія выдатна і мужна адзначыліся ў змаганьні супроць бальшавіцкіх бандытаў.**

21 сьнежня 1943 г. у залі гэнэральнага камісарыяту у прысутнасьці прадстаўнікоў ад гэнэральнага абшару немцы перайменоўваюць Беларускую Раду Даверу у Беларускую Цэнтральную Раду, адначасна агранічваюць гэтую раду сваім статутам.

which helped them control the population. Beside the German occupation forces, there were large Lithuanian, Ukrainian, French, and especially all kinds of Russian renegade military units that helped occupiers. Not one division of a Byelorussian military unit was allowed, although many thousands of Byelorussians were ready to join and fight the Russian Bolsheviks. As a matter of fact, there was a good possibility of having an army. The Germans could not be trusted, because they knew that later they would have to fight the same army they helped, because the majority of Byelorussians would not accept Hitler's plans for Eastern Europe.

The year 1942, cleared up the minds of most Byelorussians and disappointed their expectations because of the way they treated us and because of the gloomy future Hitler brought for our people. German occupuing forces were living beasts with brains soiled by Hitler's theories about the rest of the world. By being modernly equipped and trained, drunk with unhuman thinking, and thirsty for glory and social privileges in their own way, they acted as sick human beast can act.

Moskow and the communist party of the BSSR did everything possible to make the German beast more mad. That was achieved by sending provacateurs to already hiding in the woods the former lo-

**Статут**
**Цэнтральнае Беларускае Рады**

**1. Беларуская Цэнтральная Рада зьяўляецца прадстаўніцтвам беларускага народу, пакліканым у межах нададзенага яму самаураду. Сяліба яе знаходзіцца ў Менску.**

**2. Беларуская Цэнтральная Рада мае заданьне мабілізаваць усе сілы беларускага народу для зьнішчэньня бальшавізму і прычыніцца гэтым да канчальнага вызваленьня беларускага народу з-пад ярма бальшавіцкага панаваньня.**

**3. Беларуская Цэнтральная Рада мае права і абавязак складаць дзеля гэтага нямецкаму кіраўніцтву усе адпаведныя і неабходныя прапановы.**

**У межах пастаўленых ёй заданьняў яна будзе самастойна вырашаць і праводзіць усе неабходныя мерапрыемствы, у галінах сацыяльнага, культурнага і школьнага жыцьця.**

**Беларускім арганізацыям і згуртаваньням, якія існуюць у гэтых галінах, яна мае права даваць дырэктывы.**

**4. На чале Беларускае Цэнтральнае Рады стаіць прэзыдэнт, які вызначаецца і адклікаецца Гэнэральным Камісарам. Іншых сяброў вызначае Гэнэральны Камісар на прапанову прэзыдэнта.**

**5. Свае выканальныя і адміністрацыйныя распараджэньні**

cal supporters of Stalin. The slogan of the Communists was, "the worse for the population, the better for us". German beasts acted as only beasts can do by killing women and children, destroying villages, confiscating food, and sending young to slave labor in Germany. Such behavior of the occupiers was very helpful to the most hated enemy of the Byelorussian people, the Communists, who used this to help organize their partisan movements. In 1943, they grew to be the big size that helped weaken German occupying forces. They destroyed German dreams of controlling and exploiting territory.

Independent thinking Byelorussian people stayed neutral if they could, or collaborated with the Germans hoping that Germany and the Western World would make some deal together. Because in our thinking, the Russian imperialistic national-communism (Bolsheviks) was more dangerous than Germany. One other hope was that after destroying Germany, the Western World would start a war with Russia immediately. Today we can say that we didn't understand the Western World and our actings were the results of our desires to see things happen.

The independent thinking Byelorussian was more organized in the Weisruthenshe comissariat, because of the cooperation of the civilian administrations with occupuing

**Беларуская Цэнтральная Рада выдае са згодай Гэнэральнага Камісара.**

**6. Статут Беларускае Цэнтральнае Рады адразу-ж уступае ў моц.**

27 чэрвеня 1944 г., пару дзён перад тым, як немцы пакідалі Менск перад адступаючай савецкай арміяй, склікаецца так званы „Другі Беларускі Кангрэс", на якім „прэзыдэнт" Астроўскі у аснову кіраваньня народам падцьверджаіць прынцып фюрарства. Гэты-ж самы кангрэс пасылаіць тэлеграму Гітлеру у якой прызнаець Гітлера і немцаў кіруючай нацыяй „Новай Эўропы".

Цікава, што гэты кангрэс падцьверджаіць Трэцьцюю Ўстаноўчую Грамату БНР, што проста супярэчыць адно другому. Праўдападобна, ня столькі сам прынцып Трэцьцяй Устаноўчай Граматы быў важны для акупантаў, ім трэба было сказаць, што адзіны гаспадар у іх камісарыяце гэта фашысты. Таkзваны „Другі беларускі кангрэс" можна параўняць да Вярхоўнага Савета БССР сталінскай эры.

Наканец, посьле ўсіх пералічаных фактаў і кароткіх камэнтараў напрашваецца больш развагі і вывадаў, асабліва сытуацыя сёньня дый палітычная будучыня Беларускага Народа.

Аджывіць БНР беларускімі палітычнымі эмігрантамі быў

German forces. The Byelorussian comissariat was used by the Germans for two purposes. One was to fight Polish movements and also, it was the first portion of our country that was supposed to be germanized if the Germans would have won the war.

In 1943, the pushing German forces were forced to retreat. This time, after the whole mess they created in Byelorussia they changed their tactics, although they never abandoned their ideas to conquer Europe and subsequently the world. On June 27, 1943, General Komissar Kube established the Byelorussian Council of Trust composed of sixteen trusted Byelorussians. On December 21, 1943, the Byelorussian Council of Trust was given a diffedrent name — BCR — or Byelorussian Central Council. At the same time, the activity of the BCR was restricted by a statute written by the Germans. According to this statute, the President of the BCR was to be named by the German Komissar Kube. Although others could be appointed by the President BCR Astrouski, they had to be okayed by German Komissars. The sole purpose of the Byelorussian puppet government was to mobiloze the Byelorussian population before the advanced Red Army. To some degree, Byelorussians were allowed to make patriotic speeches which said Germans were supposed to be liberators and their friends.

добры пачатак. Эмігранцкія радныя, як і ўсе Беларусы былі непадрыхтаванымі жыць дэмакратычным способам, памылкай было і тое, што палітычны твар эмігранцкага раднага БНР, як быў так і ёсьць замаскаваны. Гэта прывяло да праватыканскай фракцыі сярод радных. Сёньня палітычны твар эміграцкай БНР — вельмі няпрыгожы. Адмовіцца незалежнасьці дый пайсьці на супрацоўніцтва із расейцамі маглі толькі прафэсыяльныя рэнэгацікі, палітычныя недапекі, апартуністы.

Чорная БЦР немаіць аніякіх шансаў на будучыню. Веруючыя ў свастыку зрабілі і робяць на эміграцыі ўсё магчымае каб трымаць надзею сярод сваіх прыхільнікаў.

Чырвоная БССР дзеліць свой лёс із яе гаспадарамі ў Маскве. Маскоўскія тэарэтыкі камунізма дапасоўваюць увесь культурны і гаспадарчы плян на карысьць Расейскай імпэрыі — СССР, адначасна яны церпяць страты ад Пекінскіх, Югаслаўскіх дый Заходніх тэарэтыкаў камунізма. Гэты фактар маіць сёньня вялікі ўплыў на расейскіх бальшавікоў ад якіх залежыць сёняшні гаспадарчы і культурны лёс БССР. Ваенны канфлікт паміж камуністычным сьветам можыць зьмяніць сытуацыю ў лепшы бок для чырвонай БССР; вельмі мала надзеі, у карысны вынік для Белару-

On June 27, 1944, a few days before the Germans left the capital Miensk, the so called "Second Congress" met, where President Astrouski, in his speech doomed demochacy and said the idea of a "fuehrer" was the best way to govern a nation. The same Congress send a telegram to Hitler where he and the German people were recognized as the ruling force in Europe. The BCR became the stepsister of the BSSR, the black occupirs created the same fruit as the red occupiers.

A great astonishment in 1945 was that the former "President" and his politically illiterate friends named the BCR as the sole and legal government of Byelorussa. On that ground, they were able to split Byelorussian Political Emigrants. The biggest surprise is that they continue this same story today, although the younger generation left their ranks. The biggest surprise of all, is that the almost dead BCR idea lives today, although under different names, such as the Byelorussian Congress of America, etc. Although publicly they write all kinds of pamplets in the Western World condeming Hitler, privately they are spitting in the face of democracy:

,,Look at what they are doing in Vietnam; there is no guarantee that the democratic system can produce man that is undesirable to the na-tion (because they believe in fa-

саў, із вайны чырвоных ваякаўтэарэтыкаў. Гуманітарныя развагі для імпэрыялістычна узгадаванай Расеі ня зьменяць яе псыхікі. Толькі страх і сіла могуць заставіць расейцаў на ўступкі для яе ахвяр.

Беларускі Народ на Бацькаўшчыне падзеляны на празаходня, многа расейскіх рэнэгатаў, вялікая частка народа пасьле Другой сьветавой вайны стараецца дапасавацца да абставін; вайна паказал, што „асвабадзіцелям" няма, як давяраць. Шматгадовая залежнасьць ад Польшчы і Расеі, дзе ніхто ня лічыўся із патрэбамі народа пасеілі ў нашай псыхіцы: апартунізм, ігнараваньне,скептыцызм. Расейкая праваслаўная царква дый польска-каталіцкі касьцёл падзялілі наш народ на расейцаў і палякаў, што па сёньня прыносіць шкоду у нацыянальным жыцьці нашага народу, дый карысьць для нашых жадных суседзяў. Разумеючы важнасьць царквы беларускія групавыя лідары на эміграцыі ўзяліся, вельмі хутка па другой вайне, будаваць групавыя цэрквы. Эміграцкая БНР навязала кантакт із Ватыканам дый арганізавала пры помачы украінцаў БАПЦ, якой і па сёньня кіруюць чужынцы-украінцы (вывеска ваша але воля наша); дзьве другіх палітычныя групоўкі ёсьць пад грэцкай і югаслаўскай юрысдыкцыямі. Ва-scism): Germans are smart, they will again be on the top. Stalin and Hitler did it the right way, its only way, not as they are doing".

Those who organized, around almost disorganized BNR in their internal and external relations were acting as "fuehrers" not as people who were raised under democracy. Penetrated by the Catholics' intelligentsia, the BNR doesn't match the BNR that exister fifty years ago. It is like a new car with an old license plate. Their political manipulations might unfortunately bring the BNR in exile to the end. Grown and raised under a totalitarian, ignorant occupying government, the Byelorussian Emigration is not trying to live and act in the democratic way.

Unfortunately, and even harder to believe, is that the German occupiers produced an element that can only destroy, but can't lead the Byelorussian Nation to a civilized economic and law quality that is awaiting all humanity, especially our oppressed people.

At the end, we want to ask these questions; Is it thru democracy or uncarefulness that Kosiak, Rev. Lapitcki, Scors, Stanislaw, Stankievich, and Mierlak have found their way into the White House? Does the Western governmnts realize that those names are undesirable to the majority of the people of Byelorussia? Does the Greek Orthodox

тыкан падтрымоўваіць эміграннцкую БНР за цану вуніі для праваслаўных Беларусаў. Лідары БНР па сёньня ўмела абрабляюць праваслаўных эміграннцкай рады БНР (гэта толькі тымчасова каб нам Ватыкан дапамагаў, мусім-жа мы мець нейкіх прыяцеляў на Захадзе і г. д.). Пра форму дзяржавы ніхто із эміграннцкіх групавых патрыётаў не выказваецца таму, што верацъ у дыктатуру із наступных прычын: наш народ ужо дапасаваўся да гэтага; праводзіць нейкія пляны якія супроць волі народа можна толькі пры дыктатуры; фальсыфікаваць, ня быць кантраляваным можна толькі пры дыктатуры. Як бачыце, толькі выгады палітыканаў ёсьць важнымі. Якая школа такое ўзгадаваньне. Нічога дзіўнага, што сярод нас столькі скептыкаў альбо шукаем дапамогу дзесьці.

Church realize that the Byelorussian Greek Orthodox Church is a political instrument in the hands of the Byelorussian fascists! Isn't there a way that the Western World can help hungry, unprotected by any law, spiritually destroyed to a great degree Byelorussian people, reach freedom instead of letting hungry, self-made "fuehrers" carry out their experiments as their teachers did.

Каб нэйтралізаваць духоўную атруту акупантаў ў Беларуса (апартунізм, скептыцызм, ігнараваньне) дый падняць на барацьбу трэба вера а ня цёмныя маніпуляцыі ў Ватыкане, Маскве дый іншых панадворках. Нам трэба разумець Беларусь у адзіночным ліку — разумець самых сябе; бяз гэтага немагчыма яднацца, тварыць, толькі тады зьдзейсьніцца незалежнасьць для нашага народа.

## БАЛЬШАВІЗМА АРГАНІЧНАЯ ЗЬЯВА Ў РАСЕІ

Калі здарыцца ў Расіі што добрае, дык Расійцы заўсёды хваляцца, што гэта зрабіў „русскій народ", „русские люди", хоць бы тое добрае ня было зроблена Расійцамі. Што ж да благога ў Расеі, дык гэта подле іх зрабілі ўсе іншыя, толькі ня „русскій народ". Гэтак і што да бальшавізмы. Подле Расійцаў расійскі бальшавізм, гэта — твор жыдоўскі, латыскі або іншы, толькі не расійскі. У кажным народзе могуць здарыцца ўтопістыя й вырадкі, але калі іхныя імкненьні не знаходзяць грунту, дык яны ня прымуцца. У 19 стг. былі ў розных краёх спробы комунаў, але пазналі, што яны не адказуюць людзкім патрэбам, і іх закінулі. Толькі ў Расіі бальшавізма знайшла ґрунт, там прынялася й там і стуль пашы-

рылася. Калі б іншым бальшавізма ня была накінена і падтрымоўвана Расійцамі, дык яе там ня было б. Усе згаджаюцца з тым, што калі б Вялікалітва-Беларусь ня была пад Расіяй, дык бальшавізмы ў Беларусі ня было б.

Але й сярод Расійцаў ё выняткі, каторыя маюць адвагу прызнаваць прынародна, што бальшавізм ё чыста расійскім творам. Да такіх выняткаў належа Е. Кускова, ведамная расійская палітыкантка, й некаторыя іншыя Расійцы. Дыкжэ Кускова ў сваіх успамінах „Давно мйнувшее" (Новый журнал т. 54, у Ню Ерку, 1958, бб. 117-147) кажа: „Рэвізыянізма" здаўна была расійскім марксыстым выступам. Мяняліся правадыры, шырыўся рух, ідучы часта сусім ня згодна з Марксам, і ў кажным прылучаю ня згодна з тымі лісткамі, што квіцелі ў Расіі і далі такі „наватвор", як бальшавізма (бач. 137). Гэта праз расійскіх соцыял-дэмократаў. А вось праз мінуласьць Расіі: „Гэта ж уся гісторыя Расіі напоўнена парадоксамі, і найвялікшы зь іх —бальшавізм, сіляючы карэньне свае вось у гэтай мінуласьці" (бач. 146).

Таксама рэлігійны філёзоф Бярдзяеў уважаў, што бальшавіцкая рэволюцыя была чыста расійскай ды нямінучаю зьяваю.

А во што піша пісьменьнік расійскі, Ляскоў: „У турме, у часе свайго арышту, Бэніні з нуды чытаў вельмі шмат расійскіх кніг і меж іншага прачытаў усяго Гогаля. Прачытаўшы „Мёртвыя душы", ён, варочаючы гэтую кнігу таму, хто яму яе даставіў, сказаў:

— Прадстаўце, што адно цяперака, калі мяне выганяюць із Расіі, я бачу, што я ніколі яе ня знаў. Імне казалі, што надабе яе называюць то гэнак, то гэтак, і заўсёды, з усіх гэтых размоваў выходзіла толькі адна лухта. Мае няшчасьці пайшлі проста ад тога, што я не прачытаў у пару „Мёртвыя душы". Калі б я гэта ўчыніў хоць ня ў Лёндоне, а ў Маскве, дык я першы ўважаў бы абавязкам даводзіць, што ў Расіі ніколі ня можа быць такое рэволюцыі., праз каторую лятуціць Гэрцэн.

— Чаму Ваша так думаеш? — пыталі ў яго.

— Бо ніякія дабрародныя прынцыпы ня могуць прышчапіцца сярод гэтых Чычыкаваў а Ноздраваў".

Лесков па гэтым ад сябе дадаець, што „Нельга навучыць Чычыкаваў а Ноздраваў, любіць бліжняга, як самога сябе".

(Лесков: Собрание сочинений, т. III, бач. 367-8.)

**Б. Ск.**

# З ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ

**Шматпаважаны Гаспадару-Маркоўскі!**

Атрымаў, надоечы, 10 паасобнік часапісу „Веча", а разам і 9 ужо другі, — Дзякую за прысылку мне гэтага часапісу.

Восьжа хачу сказаць некалькі слоў аб гэтым Беларускім, бязумоўна патрэбным часопісі.

Можна са здавальненьнем адзначыць, што паасобнік „Веча" — 9 па зьместу яго артыкулаў у параўнаньні з іншымі, раней выдадзенымі, мае каштоўныя думкі і зьмястоўныя устаноўкі, якія прыцягваюць увагу, могуць быць карыснымі і цікавымі для тых, хто носіць у сабе вызвольна- незалежніцкія думкі у адносінах да нашай Бацькаўшчыны-Беларусі.

Першае — гэта добра і удала у адказе крытыкам, „Вы сарвалі ня толькі маску а навт поўны „сапсардак"-халат" з твару гэнаеуніяцка-Бээнэраўскай кучкі, як правільна ужо было сказана „мафіі" — Станкевічаўскага „Беларуса" — гэта добра Вы зрабілі! Бо дагэтуль нам, нават старым Беларусам, яны лоўка пушчалі пыл у вочы, прыкрываючыся омофором (частка архірэйскага адзеньне БАПЦ). Цяпер, посьле Вашых бясспрэчных, абгрунтаваных доказаў, — ўсё стала вельмі ясна.

Другое. Ваша цьвёрдая устаноўка (гл. апошнюю старонку) — шмат арганізацый і груп-партыйных, а нема „аніякага каардынацыйнага цэнтру". Гэта так! Гэткае „партыйнае" раздробленьне вельмі шкоднае і ніяк не спрыяе справе „Вызвольна-незалежніцкага" імкненьня. На гэту Вашу заўвагу павінны зьвярнуць поўную увагу усе беларускія выданьні — усе — і часопісы перыядычныя і сталыя, калі у іх хопіць мужнасьці схаваць у кішэню тое „Я" аб якім Вы таксама добра выказаліся.

А што да патрыятызму, — то ён сапраўды не пашкодзіць але Вы правільна зазначаеце, што „адзін патрыятызм не разьвязвае праблем — права, эканомікі і культуры народу.

А вось што да дыктатуры, у якой Вы папракаіце некаторых, — то тут ёсьць крыху, як кажуць, „перабіг". Сапраўды, калі у нейкай групе народу, дзе запанавала поўная у адносінах да свае нацыянальнае справы, сьпячка, знайшлося адна, або дзьве асобы, якія выяўляюць звычайную ініцыятыву, нешта карыснае арганізаваць, хаця-б нейкі часапіс, што вельмі цяжка матэр'яльна, то гэта а ніяк не „дыктатура", а добры пачын, якога няможна не падтрымаць.

А што да вялікага артыкулу у гэтым-жа 9 - паасобнік, з подпісам „Давідовіч-Гор" — то тут шмат спрэчнага і безпадстаўнага. Напрыклад — „Вялікалітва-Беларусь" што гэта? як не склерозныя мары (нехай выбачыць мне) калі ён, аўтар, стары. Гэта вельмі старадаўняе! Цяпер ёсьць і Беларусь і Літва, паасобку, самастойныя нібы нацыянальныя рэспублікі, але пад бальшавіцка-камуністычным ботам. Кожная паасобку імкнуцца да вызваленьне і поўнай незалежнасьці, якая верым прыдзе, мо і у незабаве! Але дзеж тая адна „Вялікалітва-Беларусь". Гэта нейкая балбатня, якая толькі шкодзіць часапісу „Веча", на які шмат хто крыўляецца погледам.

— Каб былі банкі? — Трэба ведаць, як піша Палешчук, што беларусы у дарэвалюцыйны час, прыежджалі у Амэрыку толькі каб зарабіць грошы і вярнуцца дамоў падпраўляць сваю гаспадарку. Адкуль жа тут маглі зьявіцца „банкі"? а тое самое і універсытэты-калэджы? Усе пазьнейшыя эмігранцкія групы, таксваныя „ДП" — прыежджалі малымі групамі, хто калі мог і аседалі у розных гарадох і мястэчках, разрозьнена і зразумела, што ні у кога і думкі не магло зьявіцца аб Беларускім Колледжы. Таксяк стараньнямі асобных сьвятароў з тых жа „ДП"-беларусаў стварыліся некалькі Праваслаўных Парахвіяў, але не шматлюдных.

Ясна, што ні банкі, ні колледжы; цяпер нашай мэтай павінна быць арганізацыя „каардынацыйнага цэнтру" і аб гэтым трэба наўмоўкі гаварыць. Гэта павінны прапагандаваць і да гэтага заклікаць усе Беларускія колы, усе, што ёсьць часопісы і газэты.

А вось, што да мовы у „Веча", то тут справа — даруйце — дрэнь! Мне вось стукнула перад калядамі — 85 гадоў — я стары Беларус. Да 20 год, дзяцінства і юнацтва, да сканчэньня настаўніцкай сэмінарыі, жыў у глухім беларускім мястэчку Лагоўску на Барысаўшчыне, увесь час чуў і карыстаўся беларускай мовай, як дома, гэтак і сярод суседзяў, але цяпер, посьле таго, як быў на Беларусі, (посьле 10 год артыстым салістым у Пецярбурскім Марыінскім тэатру) дырэктарам БДТ І, кіраўнікам тэатр, студыі, рэжысэрам, — шмат гадоў у Менску добра карыстаўся дапамогай Якуба Коласа і Янкі Купалы і Лёсікам) з ім навучаўся у Маладэчанскай наст. сэмінарыі) — з іншымі пісьменьнікмі, але гэткіх слоў пашае Беларускае мовы, што спатыкаюцца у „Веча" — ніколі ня чуў. Напр. у артыкуле Давідовіча — „цямка", „місюкі", „надабе" — (расейскае — надо-бы) і шмат інш. — прыкра чытаць. Гэтаж нейкі жаргон з глухіх вёсак. Яшчэ — „гуляіць", „скачыць", „прачытаіць" — гэта не літаратурная мова. Народная пе-

сьня — „скача верабей, скача па дарозе ане скачыць". Ня трэба вывучаць абавязкова Лёсіка, даволі уважліва прачытаць і перачытваць творы — Купалы, Коласа, Багдановіча, Багушэвіча і шмат іншых нашых Беларускіх пісьменьнікаў (зразумела старэйшых а не цяперашніх савецкіх) — галоўным чынам апавяданьні (прозу); роўна і вершы і гэта узбагаціць запасам добрых добрагучных і зразумелых слоў. А то, нейкія „цямкі" — „сыботы" — у гэных класычных творах нема „жаргону" з глухіх вёсак, або з Польшчы.

Вось на гэтым канчаю. Выбачце за неахайнае пісаньне, аднавокі я і рука не натта падпарадкваецца. — Старасьць — не радасьць.

Бывайце!

2. 15. 71.

Жадаю посьпеху у Вашай адказнай выдавецкай працы.

З глыбокай пашанай

**В. Качанскі**

## ЗАЎВАГІ ДА ЛІСТА Сп. КАЧАНСКАГА

„А што да дыктатуры — то тут ёсьць крыху перагіб. . . .знайшлося адна або дзьве асобы якія выяўляюць звычайную ініцыятыву, нешта карыснае арганізаваць, хацяб нейкі часапіс то гэта а ніяк не „дыктатура".

Думаем, што вы нясурёзна аналізуеця зьмест часапіса.

„— каб былі банкі? ДП . . . аседалі ў розных гарадох і мястэчках . . . ні у кога і думкі не магло зьявіцца аб „Беларускім Каледжы".

Вось тут найбольшая праўда, што міністэрскія галовы БЦРаўцаў і БНРаўцаў не хацелі думаць пра Беларусь, Беларускую Эміграцыю, Беларускі Народ. У сваей барадзьбе яны пераліваліі із пустога ў парожняе ды далей прадаўжаюць тое самае. Урапатрыятычны конік „Беларусь Перадусім" далёка не завёз. Праблема, як стаяла так і стаіць на мейсьцы. Чаму Украінцы, Македонцы маюць свае школы, банкі? Напрыклад украінцы маюць у Філядэлфіі жаночы калэдж а мужчынскі калэдж ёсьць у Канэктыкат, тое самае маюць у Канадзе. Да другой сьветавой вайны яны мелі свой унівэрсытэт у Чэхаславаччыне, які эвакуіраваўся ў Заходнюю Нямеччыну. Яны варочаюць міліёнамі даляраў, не хаваюць ад публікі а не так як Лапіцкі із сваімі „дапамаговымі камітэтамі" вы-

жабрачыць пару даляраў ды падзеліць паміж тымі хто падтрымоўваіць яго таталітарна-папяровы клюбік.

Каб арганізаваць банк, калэдж, трэба мець грошы, арганізатараў, спэцыялістаў у гэтых галінах. Каб мець міліён даляраў трэба мець тысяча чалавек якіяб склалі па тысячы даляраў, гэта ёсьць пад сілу Беларусам ЗША і Канады. Мы маем настаўнікаў, што вучаць у амэрыканскіх калэджах, мы маем людзей, што разумеюць фінансавы рынак, мы не маем арганізатараў.

Хочым больш сказаць пра калэдж. Ён ёсьць нам вельмі патрэбны. Беларусы адукаваныя чужынцамі служаць чужынцам. Вось на эміграцыі, мы маем сотні і сотні настаўнікаў, інжынераў, назавіце беларускую арганізацыю дзе гэтыя сотні належаць. Падчас Другой сьветавой вайны, на Беларусі амаль у кожнай вёсцы былі людзі із сярэдняй і вышэйшай асьветай. Колькі із іх пайшлі служыць народу? Адзінкі. Гэта сёняшняя беларуская інтэлігенцыя на Бацькаўшчыне ня ёсьць здольнай даць супраціў русафікацыі, найгорш, яны дапамагаюць акупантам. Дайце паглядзім у гісторыю: як толькі сталіся пісьменнымі так і пачалі служыць таму, хто ўзгадаваў: Глінка, Манюшка, сьвятары, ксяндзы із беларусаў, прыпомніце мову беларускіх кампазытараў, артыстаў на эміграцыі. Толькі адзінкам Бог дараваў здольнасьць бачыць інакш, як іх вучылі чужынцы. Прысьпяшыць іншых Беларусаў каб служылі свайму народу можна толькі ўзгадаваньнем у сваіх навучальных установах. Нават у нашай нядаўнай гісторыі можна чмусьці навучыцца: Віленская Беларуская Гімназія, пару ДП гімназій. Што нам узгадавалі сотні расейскіх і польскіх гімназій?

Пару паўбеларускіх вайсковых школ із нямецкімі афіцэрамі хоць нейкі беларуска-патрыятычна думаючых афіцэраў далі; што Власовцы ўзгадавалі для Беларусаў? Ворагаў нашаму народу із нашага нроду.

Даць зрух для нацыянальна-лепшага заўтра на Беларусі патрэбна больш інтэлігенцыі ўзгадаванай у Беларускіх Навучальных Установах, але не ў Лювэне.

„Так-сяк стараньнямі асобных сьвятароў стварылася некалькі Праваслаўных Парахвіяў".

Некалькі Беларускіх Праваслаўных Парахвіяў стварылі палітычныя кучкі а не сьвятары адзіночкі. Напрыклад а. Лапіцкі жыў у Пасэйку дзе было і ёсьць многа Беларусаў — стварыў ён там царкву? Пераехаў ён да Саўт Рывэра дзе прыпынілася група БЦРаўскіх палітыкаў із а. Сурвілам. Трэнтон, Філядэлфія, Пасэік, Нюарк ёсьць недалёка ад Саўт Рывэра, а. Лапіцкі маіць аўтама-

шыну, прыходзік яго — маленькі, грамадзкай працы ён робіць вельмі мола — чаму ён не арганізаваў аніводнай царквы тут? У Чыкага ён паехаў аж за 1000 кілёмэтраў ад Саўт Рывэра на „дэхаратынізацыю" япіскапа, ды на разлом царкоўнага жыцьця. Хто навучыўся ламаць той ня можыць будаваць!

„А вось, што да мовы у „Веча", то тут справа-даруйце-дрэнь!"

Адразу нападаіце на мову Я. Станкевіча. Сп. Кахаоўскі, Качанскі, Станкевічы, белрускія пісьменьнікі на эміграцыі, аматары беларускае мовы маглі-б зрабіць для беларускай мовы шмат больш каб згуртаваліся на эміграцыі ў навуковую інстытуцыю дый публічна паказалі недахопы і патрэбы беларускае мовы. Замест таго каб зрабіць штосьці інтэлектуальна ў кірунку беларускае мовы мы і тут партызанім. Вось да чаго можыць прывесьці тупы групавы патрыятызм, чужое ўзгадаваньне.

Радактар часапіса „Веча" нябробіць аніякай моўнай карэкцыі прысланых артыкулаў да радакцыі. Вось і ваш ліст выдрукаваны так, як вы напісалі. Гэта палітыка радактара гэнага часапіса пісаць тымі дыялектамі якімі карыстаюцца Беларусы на эміграцыі. Найбольшымі крытыкамі мовы часапіса „Веча" ёсьць тыя, што самі нічога не разумеюць, тыя што ўвесь свой вольны час пасьвяцілі вывучэньню смаку алкаголя ў шакаў.

У №1 (11) мы пачалі друкаваць „З Роднае Мовы" проф. Я. Станкевіча. Радактар гэнага часапіса дае магчымасьць усім знатаком беларускае мовы прамовіць публічна а не ў барах і па тэлефонах із чалавекам які пасьвяціў ўсё сваё жыцьцё вывучэньню беларускае мовы, чалавек які найбольш крытыкуецца за ягоную беларускую мову.

16-га сакавіка, 1971 г.

**Паважаны Спадар Радактар Часапісу „Веча",**

Сям'я Рамукоў атрымала ўжо два номеры Вашага часапісу — 10-ты і 11-ты і мімаволі, хоць із часам неяк тугавата на пярэдадні гадаўшчыны нашага беларускага нацыянальнага сьвята, хочацца аднак выказаць свае ўражаньні.

Не маючы пад рукой папярэдніх номераў „Веча" цяжка адразу ўявіць сабе мэту, заданьне і напрамак часапісу. Маё першае ўражаньне, калі чытала номер 10-ты „Веча" было, што гэты часапіс займаецца паклёпніцкай работай, як і „Беларускі Голас" Хмары і розьніцца толькі ў тым, што выдаецца ангельскаю моваю. Праўда

былі там некаторыя і добрыя пункты і я поўнасьцю згаджаюся з Вашымі высновамі, што да ўзгадаваньня беларускай моладзі на эміграцыі. Мушу аднак дадаць, што даваньне прапановаў і парадаў на паперы, а дастасаваньне іх у практыцы зьяўляюцца дзьвюма рознымі рэчамі, а тым больш яшчэ, калі так званымі „экспэртамі" стаюцца людзі не маючы з гэтым дасьведчаньня.

У номеры 10-ым „Веча" таксама было шмат і недарэчнасьцяў, якія выклікалі пэўнае падазрэньне і несмак. Вы, напрыклад, успамінаіце аб "The Union of Byelorussian Youth of Illinois". Аб такой арганізацыі ў нас ніхто нічуў ніколі як і нікому ня ведама аб яе арганізатары Пануцэвічу. На добры лад, Вы мусілі-б спраставаць гэта.

У Чыкаго існуе арганізацыя беларуска-амэрыканскае моладзі яшчэ ад 1958 году пад іншым назовам, адной з заснавальнікаў якое таксама зьяўляецца і аўтар гэтых радкоў, а да якое супрацы ня пусьцілі сваіх дзяцей ані аднастароньнікі групы БЦР, да якое і Вы калісь належылі ўлучна з беларускай царквой Сьв. Юрага, ані ад групы БНР. Арганізацыя аднак за свой кароткі час існаваньня зрабіла ня мала дзеля папулярызацыі беларускага імя сярод амэрыканскага грамадзянства, як і сярод сваіх, сваім удзелам у міжнароднай выстаўцы на працягу 10-ці гадоў гэтае выстаўкі, у Камітэце Паняволеных Народаў, выступамі таночнага гуртка на розных міжнародных імпрэзах і тэлевізыі ды вядзеньнем месячных перадачаў у беларускай мове на працягу 11-ці гадоў. На просьбу і прапанову гэтае арганізацыі не аднаразоваа выдаваліся праклямацыі у чэсьць беларускага народа майорам гораду Чыкаго і губернатарам штату Іллiной, а санатары і многія кангрэсманы выступалі з прамовамі у Кангрэсе ЗША за Беларускі Народ у угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Арганізацыя гэтая карыстаецца вялікімі ўплывамі і посьпехамі. Сябры яе запрашаюцца на прыняцьці прэзыдэнтаў ЗША ды астранаўтаў, якія бываюць гасьцямі нашага гораду.

Далей, не падабаецца мне і тое, што Вы нападаецеся на нашых сьвятароў, як каталіцкіх так і праваслаўных. Цікава чаму так супроць рэлігіі? Праўда ёсьць сярод іх прайдзісьветы (Гэта самае адносіцца і да нашых палітычных дзеячоў), як нядаўна высьвячаны Сьвятаслаў Коўш, але таксама ёсьць і вельмі сумленныя і добрыя патрыёты, як настаяцель нашае царквы Хрыста Спаса а. Уладзімір. Тут залучаю да вашага ведама два номеры нашага царкоўнага бюлютэню з прошлага году. Гэта ёсьць довадам таго, што вучыць нашая вунія аб якой Вы таксама выказываецеся з

вялікім несмакам. А што Вы на гэта? Ці-ж можна ўсіх мерыць адной мерай?

Номер 11-ты „Веча" аказаўся больш рачовым і мне спадабаўся. Тут ёсьць добры матар'ял да развагі і здаровае дыскусьі. Дай-жа Божа больш такіх і ў будучыні, а пакуль жадаю Вам "Good luck"!

Пры гэтай нагодзе таксама перасылаю Вам фатаграфію з нашага абыходу Залатога Юбілею Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе, які ладзілі ўсе супольна — БЦР-аўцы, БНР-аўцы, незалежнікі і Беларуская Моладзь — на ганаровага сябру, хоць Вы тагды і не адклікнуліся, былі падаўшы Вас тагды мясцовыя аднастароньнікі БЦР. Проста ня хочыцца верыць, што гэта той самы др. Маркоўскі, які зрабіўся такім заўзятым патрыётам!

Таксама залучаю Вам копію раскладаў нашых радыё перадачаў. Можа будучы калісь з візытай у Чыкаго зможыце скарыстаць.

Вітаю Вас і Вашых супрацоўнікаў з надыходзячымі 53-мі угодкамі нашага нацыянальнага сьвята Абвешчаньня БНР Актам 25-га Сакавіка.

Прашу прысылаць усе папярэднія номеры ад 1-га да 9-га ўлучна. Належнасьць — чэк у суме $5.00 — тутжа залучаю.

З пашанай,

**Вера Ромук**

## ЗАЎВАГІ ДА ЛІСТА ВЕРЫ РАМУК (ЖЫЗЬНЕЎСКАЙ)

„. . . што даваньне прапановаў і парадаў на паперы, а дастасаваньне іх у практыцы зьяўляецца дзьвюма рознымі рэчамі, а тым больш яшчэ, калі так званымі „экспэртамі" стаюцца людзі ня маючы з гэтым дасьведчаньня".

Вельмі правільна сказана. Я гэта перажыў у Чыкага ў 1953 г., калі я разам із панам Пануцэвічам належылі да Беларускай Рады ў Чыкаго, вы час ад часу прыежджалі але не належылі да нас.

У гэты час у Чыкага прыехала многа моладзі, быўшых ДП із Нямеччыны. Туляліся яны кучамі па Гамболт Парк ужываючы сваю мову, можна было іх спаткаць на ўкраінскіх, польскіх вечарынках дзе яны гутарылі па польскі. Усё гэта я бачыў, бо быў разам із імі, дый аднаго разу на паседжаньні Беларускай Рады ў Чыкаго прапанаваў зрабіць Беларускі Цэнтар каб аб'яднаць, даць прытулак той моладзі якая асвабадзілася ад польскага і расейскага кантроля у ДП лягерах Нямеччыны. Для Папуцэвіча

цэнтар для моладзі гэта значыла рабіць арганізацыю прыбудоўкай праватыканскай БНР, іншыя гэтаму працівіліся, як рэзультат выйшла нішто. Сёньня ўся тая быўшая моладзь распаўзлася, дый маюць сваіх дзяцей якія хто знаіць да якіх арганізацый належаць? На маю прозьбу каб ня ўносілі лягерных склокаў у жыцьцё Беларускай Рады ў Чыкага пан Папуцэвіч мне адказваў „тут неважна добрая вялікая арганізцыя, на эміграцыі абы часткова перахавацца, як паедзім дамоў тады там будзем рабіць". Яму дапамагала газэта „Бацькаўшчына" із Мюнхена суполна із Станіславам Станкевічам які ўпікаў дый заклікаў нераспакоўвацца. Цяпер мы бачым прадбачлівасьць, розум „экспэртаў" із „вялікім дасьведчаньнем". Хутка будзіць год, як газэта „Беларус" на сваіх балонках прапанавала дыскусію над праблемай Беларускай Моладзі. Пару старыкоў па старыкоўску высказаліся, „экспэрты", як маўчалі так і маўчаць а хочуць кіраваць Беларускай Дзяржавай.

„У ... 10 номеры „Веча" успамінаецца аб

У нас ніхто аб гэткай арганізацыі ня чуў ... ня ведама аб такім арганізатары Пануцэвічу".

Ці ня лепш было спадарыня Рамук напісаць, як вашая арганізацыя моладзі называецца. Самае асноўнае, зьмест арганізацыі застаецца той самы — вуніяты. Успаміналася ў 10 і ў 6 намярох часапісу аб Пануцэвічу не як аб арганізатары але што посьле таго, як ён быў пазбаўлены сяброўства Беларускай Рады ў Чыкаго была створана пры вуніятах іх арганізацыя моладзі да якой і вы належыце. Нічога дзіўнага калі БЦРаўцы дый многія БНРаўцы не захацелі пасылаць моладзь да вашай арганізацыі.

Не разумею із якіх прычын вы мяне залічылі да быўшых аднастароньнікаў БЦР. Я ніколі не належыў і не належу да БНР ці БЦР. Я належыў да Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Марбургу (Нямеччына); належыў да беларускай лекарскай арганізацыі ў Нямеччыне, посьле хуткага выезду да ЗША не знаю, што здарылася із арганізацыяй; належыў да Беларускай Рады ў Чыкаго! належыў неахвотна да Беларуска Амэрыканскага Зьвязу у Ню Йорку. Ёсьць заснавальнікам і сябрам Маленькай Беларусі — Рэзорт Бэлэр-Менск; выдаю часапіс „Веча" для Беларускай Дэмакратычнай Справы а не радзі вуній ці радзі групавога патрыятызма ды іх лідараў. Усе вышэй пералічаныя арганізацыі ў мой час былі а некаторыя ёсьць агульна нацыянальнымі а не вузкалоба групавыя. Як дэмакрат я не магу быць фашыстам. Йшчэ не стаўся я вар'ятам каб нямецкі статут БЦР раўняць да

Ўстаноўчых Грамат БНР. Йшчэ я не асьлеп каб не распазнаць ватыканскага коніка на якім ехаў Абрамчык.

„У Чыкаго існуе арганізацыя беларуска-амэрыканскае моладзі яшчэ ад 1958 г. пад іншым назовам".

Далей спадарыня вы пачалі выхваляцца аб сваей арганізацыі. Чаму вы прапусьцілі самае асноўнае, колькі сот ці тысяч беларускае моладзі належыць да вашай арганізацыі? Колькі дзесяткаў ці соцен моладзі уліваецца кожны год да вашай арганізацыі моладзі. Лягчэй арганізаваць дзесятак чалавек моладзі ды трубіць аб сабе а тысячы, як хадзілі самапасам ці да чужынцаў так і далей прадаўжаецца.

„Цікава чаму вы так супроць рэлігіі?"

Цікава, спадарыня Рамук, скуль вы гэта выграблі? Я не супроць рэлігіі а супроць тых хто не шануіць рэлігію, як крыніцу маральнае сілы для агульнанацыянальнай справы; я супраць тых хто выкарыстоўваіць рэлігію для бруднай палітычнай гульні, радзі групавога патрыятызма. Аб вашай вуніі ня толькі я выказваюся зь несмакам для вас, але большасьць беларускага грамадзтва ставіцца негатыўна да вас аб чым вы прызналісь у сваім лісьце. А што Вы на гэта?!

Толькі із вашага ліста я дазнаўся, што без мяне мяне жанілі (быў абраны ганаровым сябрам падчас сьвяткаваньня 50 угодкаў БНР). Дзякую за фотографію і такую навіну якой я не знаў.

Дзякую за расклад вашых радыёперадач! Але чаму вы мне не прыслалі расклад радыёперадач Беларускай Рады ў Чыкаго. Мяне вельмі цікавіць адзін мамэнт: ці гэтыя дзьве беларускія радыёперадачы перадаюцца ў адзін і той самы час ці ў розныя гадзіны і дні.

Прачытаўшы вашыя царкоўныя бюлэтэні напрашваецца пытаньне: патрэбна была вам вуніяцкая царква? Маглі-ж вы рабіць гэтыя праграмы ў Беларускім касьцёле ці ў Беларускай праваслаўнай царкве!?

## НАВІНЫ, АГЛЯД ПРЭСЫ - КАМЭНТАРЫ

On March 27, 1971, the Committee For The Defense of Belair-Miensk was organized in the USA. The presidium of the Committee will execute a business. The members of the presidium are: Mr. Andryca, Mr. Holak (Lawyer), Mr. Kurylla, Dr. Markouski, and Mrs. Choniawko.

***

14 Сакавіка 1970 г. Беларусы БАПЦарквы ў Гайланд Парк, посьле багаслужбы, сабраліcь у царкоўнай залі каб павіншаваць Матушку Войтанка із 90 Гадавым Днём Нарадзінаў.

**
*

БЕЛАРУС, №167, сакавік '71
З падарожжа вакол сьвету, Нікан, Аўстралія.

„Бруклін, заселены пераважна чорнымі. Слаўны некалі Бруклін, які ўяўляў сабе я больш рамантычна, выглядаў бедным і брудным. Калі мы прыехалі, служба ў царкве ўжо пачалася. Служыў сьв. пам. Уладыка Васіль. Людзей было ня шмат — гарачае лета, але служба была ўрачыстая й хор, хоць і невялікі, пяяў добра. Стоячы ў царкве прыгадваў багатую ўжо ейную гісторыю, а ў ёй і балюча сумныя факты ды перажываў у душы, што ня можа яна й дасюль задзіночыць усіх праваслаўных Беларусаў".

БАПЦарква ня была арганізавана каб задзіночыць усіх Беларусаў. БАПЦ была арганізавана каб падпарадкаваць усіх Беларусаў, што немагчыма ў дэмакратычным сьвеце, тут вы нікога не заставіце падпарадкавацца. БАПЦарква была арганізавана, як дапамаговы сродак палітыканаў эміграцкай Рады БНР. Мэта выканана. Што пасеілі тое і пажалі.

**
*

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС №189, студзен, 1971.

Мапа Беларусі апрацавана проф. Я. Станкевічам у яго выданьнях. Радактар газэты „Беларускі Голас" тлумачыць, што гэта граніцы БССР абвешчанай у г. Смаленску, што не адпавядаіць цьверджаньнем памершага Я. Кіпеля у „Беларускай Думцы", быўшага удзельніка гэтага зьезду, як курсанта із школы чырвонай арміі.

**
*

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС №191, сакавік 1971 г.

Пытаньні на якія трэба адказаць К. Мерляк.

„Уладзімер Тамашчык (Архіепіскап Васіль Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы) пакінуў па сабе 40.000 даляраў гатоўкі. Дзе ён іх узяў?

Чым кіраваліся (айцец) Васіль Кендыш, Мікалай Гарошка, Пётр Манькоўскі, Міхась Тулейка і сын Гарошкі адвакат, падаючы ў суд брата „Уладыкі" Міхаіла Томаса-Тамашчыка, каб ён зьвярнуў грошы — 27.000, якія нібы „Уладыка" прысабечаў з царкоўнае касы?"

Калі вышэйпададзеныя факты адпавядаюць праўдзе, насоўваюцца сумныя маральныя высновы, за якія ёсьць віноўнымі духавенства, царкоўныя рады,

асабліва палітыканы, якія арганізавалі гэтую аўтакефалію.

Каб не здарылася штосьць падобнае ў іншых Беларускіх Цэрквах радзім прыхажанам дапільнаваць сваё дабро. Гэта асабліва важна для Саўт Рывэрскай Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Еўфрасіні Полацкай. Як тут вядома некалькі прыхажан перад тым як памерлі перапісалі грошы на царкву. Саўт Рывэр адно із мейсц дзе апінія прыхажан не ўважаецца. Тут больш палавіны прыхажан не прынімаюць удзелу ў адміністраваньні царквой.

Наканец, хочацца запытаць Мерляка-чым розьніцеся вы із Касяком ад тых каго вы абвінавачваіце. Вы абакралі сваіх Беларусаў на дзесяткі тысяч даляраў, пазбавілі іх права ў адміністраваньні рэзортам Бэлэр-Менск дый у зладзейскі спосаб прыкрываіцеся патрыятычным матывам. Толькі расейскія нацыянал-марксысты (бальшавікі) могуць так зрабіць; толькі паліцаі, да якіх і вы належылі, пад час нямецкай акупацыі маглі ў такі спосаб абрабаваць вёску.

Гэта пытаньні на якія даўно трэба адказаць!!!

**
*

LA PALABRA. Газэта ў гішпанскай мове, выдаецца ў ЗША. Уся восьмая бачына газэты прысьвечана American College and Seminary у Н'ю-Йорку; на адной фотографіі прэзыдэнт каледжу др. Уладыслаў Рыжы-Рыскі, на другой фотографіі — адміністрацыя і настаўнікі.

**
*

ЗМАГАР. Ратататарнае выданьне галоўнай кватэры беларускіх вэтэранаў у ЗША (эміграНцкая БНР). На вокладцы апісаны няпоўнасьцю адрасы Беларускіх арганізацый, асабліва царкоўных, у Вольным Сьвеце. На другой бачыне пару жартаў і мэта: „Змагар ёсьць часапіс змаганьня, а ня хлапцоўскі аб дзяўчатах ці жаночы аб кудзелі. Змагар будзе старацца паказаць як вайна мае быць ведзяная, каб ня было войнаў. Каб нашы ймкненьні ўсяго народу былі зьдзейсьняныя бяз крыўдыкаму-колячы з суседзяў й прыяцеляў, па гатоў братоў. Як атрымаць і ўтрымаць незалежнасьць крайіне, а волю народу. Змагар разлічаны выходзіць кожны тыдзень. Але могуць быць перапынкі і падвойныя зшыты".

А вось мудрасьць радактара „Змагара": „Перамена з сьвятара лацінскага абраду, на славянскага выглядая як толькі рэчыўная, але ня палітычная". Выглядая гэта не значыць, што так ёсьць! (Заўвага радакцыі)

Тры лісты часапіса прысьвечаны вайсковасьці, канчаецца часапіс навінамі із мэдыцыны.

**
*

Выйшла ратататарным друкам праца проф. Я. Стакевіча „З Украінскіх Дачыненьняў да Вялікалітвы-Беларусі". Праце ёсьць вельмі каштоўная.

**
*

У хуткім часе, як дабавак да часапіса „Веча", вы атрымаіце два намяры „Баранавіцкая Газэта" якая выходзіла падчас нямецкае акупацыі ў Вайсрутэнішэ Камісарыяце.

90% Беларусаў не належылі да гэтага камісарыяту. Радактар часапіса „Веча" хочыць пазнаёміць Беларусаў іншых быўшых акупацыйных зон нашай Бацькаўшчыны а таксама сёняшняю моладзь дый старую эміграцыю, як арганізоўвалася БЦР.

**
*

† 27 лютага 1971 г., у Мэльбурнэ, Аўстралія памёр архімандрыт Мадэст (Яцкевіч). Сьвятой памяці архімандрыт Мадэст пакінуў БАПЦ ды перайшоў пад апеку Канстантынопальскага Патрыярха.

---

# З РОДНАЕ МОВЫ

(працяг)

Мова складаецца з проказяў, а проказь із слоў.

**проказь,** асобная думка, праказаная або запісаная — sentence предложение.

**сынтакса,** часьць мававеды, што вызукае (дасьлядуе, разглядае) проказі, іх будоўлю і злучэньне проказаў — syntax сйнтаксйс.

**морфолёґія,** часьць мававеды, што вызукае словы й хормы слоў — morphology морфологйя.

**граматыка** — 1. часьць мававеды, што вызукае ў мове словы зь іх хормамі і проказі; у граматыцы два аддзелы: морфолёґія й сынтакса; 2. падручнік, у якім выкладзены асновы (правілы) якое мовы — grammar грамматика.

Словы складаюцца з гукаў.

**гук** — sound звук; **самагук** — vowel гласный; **сугук** — consonant

**фонэтыка,** часьць мававеды, што вызукае гукі якое мовы — phonetics фонетика. Знакі, каторымі запісуюць гукі, завуцца літарамі — letters буквы. Літара вялікая — capital letter пропйсная буква; малая літара — small letter строчная буква; пісомая літара — written letter писанная буква; друкаваная літара — printed letter печатная буква.

**абэцада або абетка,** вылічэньне ўсіх літараў якое мовы на пісьме або ў друку подле прынятага парадку — alphabet азбука, алфавит. У мове вялікалітоўскай ё тры абэцады: капіеўка, лацініца й арабіца. Капіеўка складаецца з тых літараў, каторымі друкуецца „Веча"; яе вынайшаў вялікалітоўскі навучоны Ільля Капіевіч у канцы сямнанцатага стагодзьдзя. У лацініцы прытарнаваны да беларускае вымовы літары лацінскія, яны ж прытарнаваны да мовы анґельскае і іншых моваў заходне-эўропскіх. А ў варабіцы прытарнаваны да нашае мовы літары арабскія. Арабіцы ўжываюць у сваіх рэліґійных кнігах беларускія мусульмане, няправільна званыя Татарамі.

**правапіс,** правільнае напісаньне гукаў слова —orthography орфография, правописание.

У людзіны пяць навонных **чуцьцяў** — senses чувства; **відзеньне** — sight зренйе; **слух** — hearing слух; **нюх** —smell обоняніе; **вошчуп** — touch сязание; **смак** — taste вкус.

**спакмень,** усё, што пазнаем нашымі пяцьма навоннымі чуцьцямі, а таксама розумам — object предмет.

Словы належаць да розных часьцяў мовы.

**спакменьнікі** або спакменныя йімёны, тыя словы, што ё назовамі спакмянёў — nouns (імена) существительные; спаткменьнікі собскія — proper nouns собственные существительные; агульныя — common nouns сущ. нарицательные; матар'яльныя — material substansives, mass nouns сущ. вещественные; — абстрактныя — abstract nouns (substantives) сущ. отвлеченные; кнкрэтныя — concrete nouns (substantives) сущ. конкретные; — зборныя — collective nouns (substantives) сущ. собирательные; **дзееспакменьнікі** — verbal nouns сущ. отглагольные.

**прыметнікі** або прыметныя йімёны, тыя словы, што паказуюць якасьць, пазнаку або наагул якое собства спакменя і адказуюць на пытаньні які? чый? — adjectives прйлагательные. **прыметнікі якасныя,** тыя што могуць паказаваць якасьць большаю або меншаю мераю ў розных спакмянёх — qualitative possessives качественные прилагательные; **дачынныя,** тыя, што паказуюць дачыненьне да спакмянёў (асобаў, матар'ялу, месца і да г. п.) і ня могуць паказаваць якасьці бальшаю або меншаю мераю — relative adjectives относительные прилагательные; **прыналежныя** — possessive adjectives притяжательные прилагательные.

**лічнікі** або лічнікавыя ймёны, тыя назовы, которымі завуць лікі — numerals числительные.

Спакменьнікі, прыметнікі й лічнікі маюць роды — genders роды. Роды гэткія: род мужчынскі — masculine gender мужской род; род жаноцкі — feminine gender женский род; род ніякі — neuter gender средний род; род супольны — common gender общий род.

Спакменьнікі, прыметнікі й лічнікі адмяняюцца ў залежнасьці ад пытаньняў; тыя хормы іх, каторыя яны маюць, гэтак адмяняючыся, завуцца **адменьнікамі** або склонамі — case падеж. Адменьнікі гэткія: 1. назоўны — nominative именительный; 2. дакладны або родны — genitive родительный; 3. давальны — dative дательный; 4. вінавальны — accusative винительный; 5. снадзіўны — instrumental творительный; 6. мясцовы — prepositional предложный; 7. гукальны — vocative звательный.

Адмена ж канчаткаў спакменьнікаў (прыметнікаў, лічнікаў) подле адменьнікаў ё **адмяняньне** або скланеньне — declension склонение.

Адгэтуль у перакладных спакменьніках будзем падаваць канчатак роднага а рэдчас і іншых адменьнікаў, а ў прыметніках хорму жаноцкага й ніякага роду.

**аблой**-ою, мц. а гук. — ою — frozen snow изморозь. Ксл., шероховатый снег. Дсл. Гэткі сядні аблой; Лоўжа Сір. (Ксл.). Увясну стаўся аблой. Пацэрк. п. (Дсл.).

аблонь-ні, ж. — 1. large, level field where nothing has been sown обширное, ровное пространство, поляна (не занятая посевом С.). Бацькаўшчына сьнілася б мая, і лясы і ветлыя аблоні. Крушына: Лебедзь, 22. Дзе ж ніва, дзе ж, якую дзед араў? Салавей: Сіла, 41. 2. a low meadow низменное луговое пространство. Гсл.

**аблоньне**=аблонь. Нсл. 348.

**аблямоўка**-кі — border, edge кайма. Шсл., обшивка краев одежды тесьмой, мехом или снурком, оторочка. Нсл. 349.

**аблік**-ку — mistake in counting ошибка в счете. Нсл. 348, просчёт. Тут аблік ёсьць якісь. Нсл. Лічы без абліку. Нсл.

**абліваха**-ахі — freezing rain, зимний дождь, замерзающий на земле, на деревах й т. п., от чего получается гололедица. Ксл., (жидкая грязь на земле от дождя или мокрого снега. С.) слякоть. Шсл. Сядні на дварэ абліваха. Аськершчына Беш. (Ксл.).

**аблічка**-кі = аблік. Гсл.

**аблічна** — personally лицом к лицу. Нсл. 348, лично, сам своей особой; персонально. Гордз. акты XVII, 536. Аблічна зь ім стаў перад судам. Нсл. Кахна, аблічне стоячы, адказала. Гордз. Акты, 4.

**аблічнасьць**-ці — presence личное присутствие. Нсл. 348. Перад аблічнасьцю пана зманіў. Нсл. Гэта было ў тваей аблічнасьці. Нсл. — **У вабліччу** — in the face в лицо. У вабліччу маім маніш ((Нсл. 348) — в лицо мне (перед лицом) лжешь.

Далей будзе

**Я. Станкевіч**

---

ПАМЫЛКІ ДРУКУ. У №1 (11) „Веча", бачына 14 трэба чытаць „Камітэт Вольнае Беларусі" а не „Камітэт Вызваленьня Беларусі".

---

## БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ ВЫДАНЬНЯ БІБЛІ

гэтым квітуе дары на друк Новага Закону Біблі, адзяржаныя па апошнім паквітаваньню (у №166 „Беларуса"). Прыслалі свае дары: Тарас а Зінаіда Сайкі 220 дал. і Міхайла Палюховіч 15 дал., — разам 235 дал. Вялікі ім дзякуй! Заплаціўшы гэтыя грошы, наш Камітэт адзяржаў сто апраўленых экзэмпляроў Новага Закону Біблі. Яны ўжо прадаюцца па 3 дал. 50цэнтаў.

Дзеля выкупленьня засталых тысячы экзэмпляроў Новага Закону Біблі, каторыя будуць апраўлены разам із Старым Законам Біблі, не стаець Комітэту аднае тысячы сту асьмідзясят двух дал. (1182 дал.). Стары Закон Біблі ў друку. Яго выдаець Місыйнае Жыдоўска-Хрысьцянскае Таварыства.

Просім іншых адгуктуцца. Чэкі дароў і платы просім прысылаць на адрыс скарбніка Камітэту:

Mr. W. Stankevich
275 Genevieve Ave.
Hawthorne, N. J. 07506

**Беларускі Камітэт Выданьня Біблі**

---

У гэтым нумары, мапу на вокладцы і паясьненьні да мапы апрацаваў др П. Маркоўскі.